© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Фестываль дружбы польскай і савецкай моладзі

Ніва
Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства
№ 39 (970) ГОД XIX БЕЛАСТОК 29 ВЕРАСНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## Хай заўжды будзе сонца!

Пятніца, 13 верасня. Беласток упрыгожаны сцягамі і транспарантамі. У людзей прыўзняты настрой. Усе рыхтуюцца да сустрэчы гасцей. Сюды прыедуць прадстаўнікі маладога пакалення Савецкага Саюза і ўсіх ваяводстваў нашай краіны, каб у нашым горадзе заключыць агульным святкаваннем Дні дружбы польскай і савецкай моладзі, якія адбываліся з удзелам савецкай моладзі ва ўсіх ваяводствах нашай краіны.

І вось яны, нашыя госці. Вітаюць іх на граніцах ваяводства прадстаўнікі нашых маладзёжных арганізацый, па дарозе вітае ўпрыгожаныя аўтобусы вясковая моладзь, насельніцтва. Ад гэтага часу Беласток будзе як бы маладзейшы, яшчэ больш гучнейшы польскімі і савецкімі песнямі.


*Самалёты з польскім і савецкім флагамі над стадыёнам.*

У суботу — афіцыяльнае адкрыццё Фестывалю і першыя мерапрыемствы. У дзесяць гадзін раніцы на Плянтах ля Помніка ўдзячнасці збіраецца моладзь абедзвюх краін. На ўрачыстасць прыбываюць ганаровыя госці: І сакратар ВК ПАРП у Беластоку — **Здзіслаў Куроўскі**, старшыня Галоўнага савета Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі — **Станіслаў Цёсэк**, віцэваявода беластоцкі — **Ежы Зентара.** Побач кіраўніцтва савецкай дэлегацыі з сакратаром ЦК ВЛКСМ — **Сурэнам Арутунянам**. У госці прыбылі да нас таксама ўдзельнікі вызвалення Польшчы: генерал арміі **Іван Федудзінскі** (былы камандуючы арміі II Беларускага фронту), генерал-лейтэнант — **Віктар Пазняк** і іншыя. Пры гуках ваенных барабаншчыкаў паасобныя дэлегацыі ўскладаюць вянкі ля помніка.

Пасля гэтага моладзь праходзіць вуліцамі Беластока ў новы амфітэатр на ўзгорку Магдалены, дзе адбудзецца адкрыццё Фестывалю, канцэрты.



*Відовішча на стадыёне „Гвардыі“ ў выкананні моладзі школ Беласточчыны.*

У час адкрыцця Фестывалю выступіў тав. Здзіслаў Куроўскі. Сказаў ён: **„Наш народ святкуе юбілей Народнай Айчыны з пачуццём гордасці за свае дасягненні, а адначасова з свядомасцю новых грандыёзных планаў, якія прымаем з думкай аб будучыні. Нашы дасягненні сталі зыходным пунктам для новых перспектыў развіцця сацыялістычнай Польшчы дзевяностых гадоў — краіны, з'яўляючайся моцным звяном сацыялістычнага лагера, на чале якога стаіць Савецкі Саюз. У натуральнай эстафеце пакаленняў з гэткіх намераў вынікаюць амбітныя заданні перш за ўсё для моладзі, для пакалення, прадстаўнікоў якога госцім сёння на Беласточчыне“.**


*Ля Помніка ўдзячнасці.*


*Танцы і песні амаль у кожным месцы.*

Запоўнены да апошняга месца амфітэатр гучыць маладосцю, радасцю, палае лозунгамі на польскай і рускай мовах. Беластоцкая моладзь горача вітае гасцей — моладзь Савецкага Саюза і Польшчы. Афіцыяльную частку заканчвае канцэрт у выкананні Цэнтральнага ансамбля Войска Польскага і Курпі Зялёных.

Потым паасобныя групы моладзі сустракаюцца на мерапрыемствах „У гасціне ў беластаччан“. Беластоцкая моладзь хлебам і соллю вітае дарагіх гасцей. На сцэнах мастацкія калектывы Беласточчыны. Абмен вопытам, думкамі будзе працягвацца ў інтэрнатах і гатэлях, месцах пражывання моладзі.

І ўрэшце вечарам у амфітэатры ўрачысты канцэрт савецкіх гасцей. Арганізатары спадзяваліся 6-7 тысяч чалавек. Прыйшло 15 тысяч. І гэта добра, хаця было і цеснавата. У святле каляровых пражэктараў выступалі маладзёжныя калектывы Савецкага Саюза — з Якуціі, Латвіі, Масквы, Ленінграда, Белграда, Харкава, Мінска. Гэта цудоўнае відовішча пераўтварылася ў маніфестацыю непарушнай дружбы і міру.

„Хай заўжды будзе сонца“ — гэта лозунг другога дня Фестывалю. На выставачную плошчу прыбыла моладзь Беласточчыны і госці Фестывалю. Усе наведваюць выстаўку, ходзяць групы моладзі з гармонікамі, з песняй на польскай і рускай мовах. Нашыя юнакі гавораць па-руску, госці па-польску, знаёмяцца, абменьваюцца адрасамі.

У адзінаццаць гадзін на запоўненым стадыёне чарговае мерапрыемства — відовішча ў выкананні вучняў школ Беласточчыны. На пліце стадыёна група моладзі, уфарміраваная ў стрэлку з пагранічным слупом, на трыбуне паяўляецца надпіс „Барацьба“. Стрэлка ідзе ад усходу на захад, і так паўстае карта сучаснай Польшчы. Потым змена. Ствараецца вобраз працуючай машыны і завадскога цэха. На трыбунах надпіс „Праца“. Затым гэта пераўтвараецца ў надпіс: „PRL — СССР“ і сімвал фестывальнага значка. На трыбунах чуюцца воклікі: „Молодцы, молодцы“.

Вечарам велізарны і надта ўрачысты мітынг дружбы польскай і савецкай моладзі, а потым у памяшканні Медыцынскай акадэміі велізарны баль.

Цяжка перадаць усё аб Фестывалі дружбы. Мы перадаем толькі фрагменты. Здаецца, мы ўсім спадабаліся. Нашымі дасягненнямі і гасціннасцю. Часта было чуваць: „Белосток пусть славится — нам здесь очень нравится“.

Станіслаў Цёсэк, ацэньваючы ўступна мерапрыемства, сказаў: „У Беластоку мы распачалі новы этап супрацоўніцтва з Камсамолам“.

**Аляксей Карпюк**
**фота аўтара**


*Амфітэатр запоўнены моладдзю.*


*Калектыў „Лянок“ з Беларусі.*


*Удзельнікі Фестывалю на вуліцах Беластока.*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# НА ПАСОЛЬСКІМ ПАСТУ

Паслы ў Сейм распачынаюць другое паўгоддзе працы. Будзе яно напэўна працавітае, але зараз разгледзім, чым пасланцы нашай зямлі займаліся ў першым паўгоддзі 1974 года.

Як дагэтуль, асноўнай формай працы былі сустрэчы з выбаршчыкамі. Аднак спосаб іх правядзення быў іншы. Паслы супольна з раднымі ВРН аж 23 разы сустрэліся з грамадска-гаспадарчым актывам. У час гэтых сустрэч паслы і радныя ВРН маглі больш дакладна пазнаёміцца з праблематыкай данага павету, больш уважліва выслухаць інфармацыю аб рэалізацыі таго ці іншага закона Сейма. У выніку гэтага наш Ваяводскі пасольскі калектыў (ВЗП) прыйшоў да вываду, што адна сустрэча з шырокім колам прадстаўнікоў павятовых улад дае значна больш каштоўную інфармацыю аб асноўных справах, чымсьці некалькі сустрэч, арганізаваных у паасобных асяроддзях. Аднак незалежна ад гэтага, нашы паслы звяртаюць таксама вялікую ўвагу на непасрэдныя сустрэчы з выбаршчыкамі на месцы іх работы або пражывання.

У параўнанні з мінулагоднім першым паўгоддзем, сёлета адбылося больш сустрэч, на якія прыходзіла значна больш выбаршчыкаў.

Апрача сустрэч, нашы паслы ў вызначаныя дні дзяжурылі ў паасобных павятовых упраўленнях, дзе прымалі выбаршчыкаў індывідуальна.

У выніку сустрэч і дзяжурстваў у першым паўгоддзі накіравалі яны 199 інтэрвенцый у паасобныя ўстановы. Гэтыя інтэрвенцыі датычылі цэлага шэрагу спраў: пабудовы водаправодаў, рамонту дарог, будаўнічых пляцаў, а на вёсцы асабліва выйшлі справы падзелу гаспадаркі, навадненння лугоў, арганізацыі гміннай сельскагаспадарчай службы і іншыя.

Трэба сказаць, што параўнаўча невялікая колькасць пасольскіх інтэрвенцый была ўладжана станоўча. У большасці выпадкаў зацікаўленыя атрымалі адказы, у якіх падрабязна было расталкавана, чаму даная справа не можа быць уладжана па думцы скарджачага, або, калі і пры якой нагодзе можа быць яна ўладжана. Са зместу гэтых інтэрвенцый вынікае, што ў асноўным гэта індывідуальныя справы, якія раней разглядаліся ў павеце і ваяводстве, і што часта гэта справы вельмі складаныя, і пазітыўнае афармленне іх пярэчыла б існуючым законам.

Нашы паслы пасрэднічалі ў афармленні многіх спраў, высунутых начальнікамі паветаў і грамадска-гаспадарчым актывам. І так, напрыклад, прапанова насельніцтва Беластоцката павету, неаднойчы складаная да ўлад, якая датычыць будовы фрукта-тароднічнага перапрацоўчага завода ў гэтым павеце, будзе ўзятая пад увагу. Рэалізацыя гэтай інвестыцыі пачнецца яшчэ ў гэтым годзе.

За мінулы паўгадавы перыяд нашы паслы аж семнаццаць разоў, у тым ліку тры разы калектыўна, звярталіся да цэнтральных улад. Пасольскія выступленні датычыліся, між іншым, прыняцця Саветам Міністраў пастановы адносна комплекснага загаспадарання Аўгустова і рэгіёну з увагі на яго вялікія курортныя вартасці.

У сувязі з інтэрвенцыяй рабочага калектыву станцыі ПКП у Семяноўцы Гайнаўскага павету паінфармавана Міністэрства камунікацыі аб тым, што станцыя не падрыхтавана да правільнага выконвання нарастаючых заданняў. Тут праца ў асноўным адбываецца ўручную, калектыў працуе ў цяжкіх умовах і не мае асноўнага сацыяльнага і санітарнага абсталявання. Міністэрства паінфармавала, што ДОКП Варшава апрацавала праграму разбудовы і мадэрнізацыі раёна.

Трэба прызнаць, што ў выніку працы нашых паслоў палепшыліся санітарныя ўмовы ў паяздах, а некаторыя з іх на летні перыяд атрымалі буфеты з халоднымі напіткамі.

У той час, калі нашы паслы, пасля летняга перапынку, зноў прыступяць да працы, неабходна было б напомніць, што ў сустрэчах паслоў з выбаршчыкамі ці актывам павінны прымаць удзел дырэкцыі зацікаўленых аддзелаў УВ. І яшчэ адно. Сустрэчы з актывам і ўладамі павету падрыхтоўваць так, каб можна было праінфармаваць іх аб спосабе ўладкоўвання раней зробленых імі прапаноў.

**А. Карпюк**

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

# МІХАІЛ САВІЦКІ



Міхаіл Савіцкі — вядомы беларускі жывапісец. Закончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава і пачаў самастойны шлях у жывапісе ў канцы пяцідзесятых гадоў. Асабліва напружанымі былі для яго ў творчасці апошнія дзесяць-пятнаццаць год. У гэтыя гады ім створаны галоўныя яго карціны, якія сталі падзеяй у беларускім савецкім жывапісе. Многія яго карціны паспяхова экспанаваліся на ўсесаюзных і замежных выстаўках. Яго карцінам давалі высокую ацэнку Рэната Гутуза і Давід Альфара Сікойрас. Ён лаўрэат Дзяржаўных прэмій рэспублікі і Савецкага Саюза. Яго праца „Партызанская мадона" набыта для пастаяннай экспазіцыі такім аўтарытэтным у свеце мастацкім музеем, як Дзяржаўная Трэцякоўская галерэя ў Маскве.

Міхаіл Савіцкі — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Уражанні і перажыванні юначых год акрэслілі галоўны напрамак у творчасці мастака. Адначасова ён удзяляе ўвагу і тэме працоўнага гераізму савецкіх людзей.

Міхаіл Савіцкі жыве і працуе ў Мінску. Яму прысвоена званне народнага мастака БССР, ён выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі мастацтва СССР.

**Уладзімір Бойка**
фота **В. Казлова**



*„Ураджай"*




■ 1 верасня ў Гарадку адбыўся турнір Гарадоцкай і Міхалоўскай гмін. На ім выступілі жаночы харавы калектыў БГКТ з Гарадка і харавы калектыў з Міхалова. У турніры пераможцамі аказаліся гарадчане.

■ 8 верасня ў вёсцы Плёскі, што на Бельшчыне, улады Храбалоўскай гміны пры дапамозе мясцовага гуртка БГКТ і іншых арганізацый вёскі арганізавалі свята ўраджаю — дажынкі. З дакладам выступіў начальнік гміны Уладзімір Ляўко, а традыцыйны бохан хлеба прыняў сакратар гміннага камітэта ПАРП тав. Казлоўскі. У мастацкай частцы выступілі: школьнікі з Плёсак (яны пад кіраўніцтвам Люсі Васілюк падрыхтавалі цікавы мантаж), вакальная група з Плёсак і некаторыя члены гарадскога мастацкага калектыву БГКТ у Беластоку і харавы калектыў з Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску. Пасля спартыўных іграў распачалася народная забава пад музыку інструментальнага калектыву БГКТ з Беластока.

■ 9 верасня камісія культуры ГП падсумавала дзейнасць БГКТ у мінулым культурна-асветным годзе, падрыхтавала правілы песенных і тэатральных конкурсаў БГКТ для школьнікаў і дарослых.

■ 11 верасня прэзідыум гайнаўскага аддзела БГКТ прааналізаваў вынікі сваёй дзейнасці ў гэтым годзе. Затым прэзідыум зацвердзіў план працы да канца 1974 года. Галоўнымі заданнямі ў гэты час будзе: разбудова арганізацыі, выкананне раней зацверджаных планаў у сувязі са святкаваннем XXX гадавіны Народнай Польшчы, правядзенне сходаў у гуртках БГКТ з удзелам актыву, намаганні, каб усе члены БГКТ аплацілі членскія складчыны за гэты год. У пасяджэнні прэзідыума прымаў удзел старшыня ГП Мікалай Самоцік.

■ 11 верасня ў Гарадку пры ўдзеле старшыні ГП БГКТ Міколы Самоціка адбылося выязное пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела БГКТ, на якім была разгледжана справаздача аб дзейнасці аддзела ў I паўгоддзі гэтага года. Між іншым, было сцверджана, што многія гурткі БГКТ аплацілі ўжо за гэты год членскія складчыны (у Гарадку, Баброўніках, Паўлах, Васількове і іншых мясцовасцях), што добра была праведзена справаздачная кампанія ў гуртках. Таксама добра развівалася ў павеце мастацкая самадзейнасць з беларускім рэпертуарам. За гэты перыяд павялічылася павятовая арганізацыя БГКТ. Неўзабаве арганізуюцца новыя гурткі БГКТ у Дарожках, Цялушках, Тапалянах, Падазяранах і Дамброўках.

■ 12 верасня прэзідыум ГП прыняў справаздачу аб дзейнасці БГКТ у 1973/74 культурна-асветным годзе і правілы конкурсаў песенных і тэатральных. Гэтыя матэрыялы падрыхтавала камісія культуры ГП БГКТ.

У арганізацыйных справах, у сувязі з адыходам на іншую работу Валянціны Філіпюк і Надзі Даніловіч, на пасады інспектараў у ГП прыняты: па культурна-асветных справах — Людміла Васілюк і па справах арганізацыйных — Яўгенія Іванюк. (мх)

**Праз тыдзень у „Ніве"**
**Васіль Быкаў —**
**„ПАСТКА"**




**Niedziela 29.IX.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.05 Mat. 7.40 Kurs Rol. 8.15 Przyp., radz. 8.25 Now. w domu i zagr. 8.45 Pr. dnia. 8.50 Bieg po zdrowie. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 DROGI ZWYCIĘSTWA — w pr. filmy: Upadek Francji — ang. i Grenadierzy — pol. 12.05 Dziennik. 12.25 Pr. wiejski. 12.40 Piosenka dla Ciebie. 13.30 Klub Sześciu Kont. 14.10 Dla dzieci: TV Teatr Lalek — H. Januszewska „Królewskie dyrdymałki". 15.15 Nie tylko dla pań. 15.45 Refleksje ob. 16.00 Los. Toto-Lot. 16.15 Pr. rozr. 17.15 Lektury Pegaza. 17.25 Sport. 18.20 Tele-Echo. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.25 Gra — film. TVP. 21.20 Sam na sam ze Zbigniewem Załuskim. 22.20 Sport.

**Poniedziałek 30.IX.** 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.55 Nurt. Min. J. Kuberski. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Warsz. persp. 18.05 Ja i mój pies. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Publ. międzynar. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Kawalec — Tańczący jastrząb. 21.40 Światłoczuły not. 22.20 Gra H. Czerny-Stefańska. 22.30 Dziennik. 22.45 Oferty.

**Wtorek 1.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 10.00 Siedem romansów Donii Juanity — film NRD. 11.05 Dla szkół: (kl. VII-VIII) Wych. plast. Malarstwo cz. II. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) J. pol. — L. Kruczkowski „Niemcy". 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Pr. film. 17.40 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Eureka. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedem romansów Donii Juanity — fim NRD. 21.20 Świat i Polska. 22.05 Recital Chris Monteza. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport.

**Środa 2.X.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Bot. 10.00 Trzeci bieg — film fab. węg. 12.45 Tech. Rol. Hist. 13.25 Upr. rośl. 14.15 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Latający Holender. 17.10 Kr. Warsz. i Maz. 17.30 P. nożna. RUCH (Chorzów) — HVIDOVRE (Kopenhaga). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 P. nożna. LEGIA Warszawa — FC NANTES (Francja) II połowa. 21.15 Trzeci bieg — film fab. węg. 22.55 Dziennik. 23.10 Sport.

**Czwartek 3.X.** 6.25 Tech Rol. Hist. 6.55 Upr. rośl. 7.25 Marynarze — film fab. radz. 9.00 Dla szkół: (kl. I. lic.) J. pol. Homer „Iliada". 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Hist. W średniowiecz. Krakowie. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. Tetmajer-Kasprowicz-Staff. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Fiz. 15.00 Mat. w szkole. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Tańczy Elżbieta Jaroń. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.20 Pr. publ. 18.50 Test — Sł. Ekonom. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Kobra: F. Durbridge „Desperaci" cz. II. 21.20 Sport. 21.30 Czym żyje świat. 22.00 Studio przebojów. 22.40 Dziennik.

**Piątek 4.X.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Fiz. 8.00 Gra — film TVP. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. Mapa obrazem ziemi. 10.00 Janosik. 12.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Syberia kraj wielkich przeobrażeń. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.55 Nurt — Filozof. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.15 Turoszów — Hirszwelde — rep. 17.45 Poradnia młodych. 18.00 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Krok za horyzontem cz I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Dziennik. 21.55 Wielcy ludzie a muzyka — S. Wyspiański. 22.25 Dziennik. 22.40 Krok za horyzontem cz. II.

**Sobota 5.X.** 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 7.00 Mech. rol. 10.00 Hombre — film fab. USA. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.15 Mech. rol. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. Szk. zapowiada. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci. 16.30 Klub Sześciu Kont. 17.25 Muzyka młodzieży świata. 18.05 Szare na złote. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Hombre — film fab. USA. 22.05 Pr. estrad. TV NRD. 23.15 Dziennik. 23.35 Sport.




**Piątek 27.IX** — 15.05 Pr. dnia. 16.30 Republikańskie święto poezji. 17.35 Film seryjny. 19.30 Pr. rozr. 20.40 Sport.

**Sobota 28.IX** — 7.00 Pr. dnia. 8.00 Przegl. międzynar. 9.20 Przegl. film. 12.35 Film fab. 14.30 Film dok. 15.30 Filmy anim. 17.15 Piosenka — 74. 17.45 Spektakl Mosk. Teatru Satyry. 20.55 Koncert.

**Niedziela 29.IX** — 13.00 Koncert życzeń. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.30 Film. fab. 19.30 Balet. 20.40 Koncert.




**Białowieża** Iluminacje — pol. 1—2. Pan Hulot wśród samochodów — franc. 3—4. Macocha — radz. 5—6.
**Dubicze Cerkiewne** Monolog — radz. Ogniomistrz Kaleń — pol. 2—6.
**Gródek** Bądź w porcie nocą — angl. 2. Poradnik matrymonialny — pol. 5—6.
**Michałowo** Prywatna wojna Murphiego — angl. 1—2. Dziewczyna z gór — jugosł. 3—4. Bułeczka — pol. 5—6.
**Mielnik** Bądź w porcie nocą — angl. 2. Poradnik matrymonialny — pol. 5—6.
**Milejczyce** Nie drażnić cioci Leontyny 1—2. Babie lato — bułg. 3—4. Podróż w 30-lecie — pol. 5—6.
**Narew** Białe czaple — bułg. Śmiech w ciemności angl. 2—6.
**Narewka** Spragniona miłości — bułg. Nie ma mocnych — pol. 2—6.
**Nurzec** Cyrk straceńców — USA. 1—2. Zuzanna i zaczarowany pierścień — NRD. 3—4. Kafe pod Minogą — pol. 5—6.
**Orla** Co ważne w życiu — czes. Powrót na miejsce wypadku — jugosł. 2—6.
**Rajsk** Ten okrutny nikczemny chłopak — pol. Młynarczyk i kotka — NRD. 2—6.
**Suchowola** Chłopi cz. I—II. Włoch szuka żony — włosk. 2—6.

B.Z.Graf. zam. 2557 O-3



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

### Сібірскія балады

## Сустрэча з Масквой

Ужо раніца 18 ліпеня. А 8.30 мы прыехалі ў Маскву на Беларускі вакзал. Развітваюся з прафесарам. Выходжу на перон. Акружае мяне велізарны натоўп — людзі з дзецьмі, чамаданамі, мяшкамі. Агортвае мяне трывога. Ці сустрэне мяне нехта, ці самому трэба будзе дабірацца ў Саюз пісьменнікаў? Іду па пероне і бачу Віктара Барысава — супрацоўніка замежнай камісіі Саюза савецкіх пісьменнікаў, якога не раз я сустракаў у Варшаве; канец трывозе. Выходзім з вакзала і падыходзім да „Волгі". Едзем у гасцініцу. Барысаў расказвае аб сваёй паездцы на Кубу. Пад'язджаем да грамаднай гасцініцы „Расія". Кароткія фармальнасці, і я ўжо ў нумары. Барысаў выясняе, што да 18.00 я свабодны, а ў 18 выязджаем у аэрапорт і адтуль — самалётам у Сібір. Развітваемся з Барысавым, пераапранаюся. Іду на снеданне і а 10.40 выходжу ў горад. Я ў Маскве быў не раз і досыць добра ведаю гэты горад, вядома, мае веды адносяцца да цэнтра горада. Усю Маскву ведаць нельга, налічвае яна 8 мільёнаў чалавек і належыць да ліку найбольшых гарадоў свету.

Выйшаўшы з гасцініцы, накіраваўся я ў бок сэрца Масквы — Крэмля. Гасцініца „Расія" знаходзіцца ўсяго ў некалькіх кроках ад крэмлёўскага комплексу. Аб даўжыні адной сцяны „Расіі" найлепш сведчыць тое, што побач яе змяшчаецца аж пяць цэркваў. Прыгожыя гэта цэрквы. Адны з іх рэстаўрыраваны, другія стаяць у рыштаваннях. Пстрыкаю апаратам, і пасажам паміж гасцініцай і царкоўкамі іду ў бок караля маскоўскіх цэркваў — сабора Васіля Блажэннага, які знаходзіцца пры Краснай Плошчы. Аказваецца, што сабор, як заўсёды, забіты экскурсіямі, у сувязі з гэтым раблю толькі некалькі здымкаў і не стараюся прабіцца ў сабор, тым болей, што быў я ў ім не раз. Прыглядаюся да Краснай Плошчы і крэмлёўскіх вежаў. Усе ў рамонце. Плошча застаўлена вагонеткамі, машынамі, інструментамі, цэментам. Большасць крэмлёўскіх вежаў у рыштаваннях. Музей Леніна прыкрыты пластамі фоліі. Ідзе вялікі рамонт, аднаўленне крэмлёўскага комплексу.

Уваходжу ў славуты Універмаг — грамадны магазін, які адным сваім бокам прытуляецца да Краснай Плошчы. Таўкуся сярод грамаднага натоўпу. Шукаю прылаўка, дзе прадаюцца сшыткі. Патрэбны для запісаў. Знаходжу з вялікімі цяжкасцямі. Нельга нідзе даступіцца. Усюды мора людзей. Хаджу і думаю: колькі людзей абслугоўвае магазін і колькі людзей яго наведвае? Колькасць наведвальнікаў акрэсліваю на 5—10 тысяч. Заўважаю некалькі больш свабодных прадаўцоў. Пытаю іх аб тым, колькі людзей абслугоўвае Універмаг. Ніхто не ведае. Урэшце бачу шыльду „Адміністратар", уваходжу і пытаю:

— Колькі чалавек працуе ў магазіне?

— Сем тысяч, — адказвае.

— А колькі людзей штодзённа наведвае магазін?

— У сярэднім 250 тысяч.

Значыць, памыліўся я больш як на 200 тысяч.

Як п'яны, выходжу на вуліцу. Доўга хаджу сярод грамаднага натоўпу. Горача. Урэшце даходжу да помніка Маякоўскаму, які характарызуецца тым, што не мае пастумента. Маякоўскі стаіць амаль на зямлі. Так, як бы быў адным з нас, адным з прахожых. Стаю, і прыпамінаецца мне верш паэта, у якім выявіў ён сваё непрыхільныя адносіны да помнікаў:

Мне напляваць на бронзы
многапуддзе,
Мне напляваць на мрамарную слізь.
Падзелім славу, мы сваі жа людзі,
Няхай агульным памятнікам будзе
Ў баях узнесены сацыялізм.

Вяртаюся ў гасцініцу паабедаць і адпачыць перад падарожжам у Сібір.

**Алесь Барскі**



### Людзі добрай работы

## АНАТОЛЬ АНІШЧУК

Да перадавых гаспадароў у гміне Кляшчэлі Гайнаўскага павету належыць малады селянін з вёскі Белая Страж — Анатоль Анішчук. Яму 34 гады. На сваёй 14-гектаравай гаспадарцы гадуе ён 23 свінні, 8 кароў, каня-прыгажуна. Малады беластражаўскі гаспадар прадае ў сярэднім дваццаць свіней у год, 1500 кілаграмаў збожжа і 2500 кілаграмаў бульбы. Апрача таго, на пункт скупкі дастаўляе кожную раніцу 25-30 літраў малака (3,8% тлушчу).



Высокіх ураджаяў Анатоль Анішчук дабіўся дзякуючы сваім агратэхнічным ведам, якія атрымаў у сельскагаспадарчай школе і на ўласных доследных палетках. Пры дапамозе агранома вядзе ён доследныя палеткі з двума сартамі бульбы — „Флісак" і „Эпоха", аўсом „Пшэбоем", жытам „Хробрым" і ў апошні час з ячменем. Пад збожжавыя культуры падсявае 1600 НПК у чыстым складзе.

Працалюбівы селянін ў мінулым годзе закончыў будаваць новую стадолу. Усе будынкі яго накрытыя чарапіцай. Працу аблягчае сабе пры дапамозе некаторых уласных сельскагаспадарчых машын: сячкарні, млынка-сьрутоўніка, касілкі, бульбакапалкі і іншых.

Анатоль Анішчук самастойна пачаў гаспадарыць пасля смерці бацькі.

За высокія прадукцыйныя поспехі ён быў узнагароджаны дыпломам ад імя павятовых адміністрацыйных улад.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## З сям'і матэматыкаў

У агародчыку васьмікласнай зборнай школы ў Нурцы, што ў Бельскім павеце, у гэты асенні час ірдзіста ззяюць гваздзікі, гладыёлусы, ружы. У час перапынку дзеці на спартыўнай пляцоўцы гуляюць у „два агні" або праходжваюцца па сцежках квітнеючага агародчыка.

— Паходжу я з сялянскай сям'і з вёскі Аўгустова каля Бельска, — расказвае настаўніца матэматыкі **Зоя Мартынюк.** — У бацькоў было нас толькі дзве — сястра і я. Так ужо склалася, што мы абедзве закончылі Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску. Зрэшты, не толькі мы, для большасці жыхароў бельскіх вёсак гэты ліцэй з'яўляецца сваёй, роднай, інакш кажучы „сямейнай школай". Мая сястра, магістр матэматыкі Валянціна Анацік, працуе цяпер настаўніцай у эканамічным ліцэі ў Осне Любускім каля Суленціна ў Зялёнагурскім ваяводстве. Я таксама пайшла ў яе сляды. У 1957 годзе закончыла ліцэй і пачала працаваць настаўніцай. Вучыла ў Шчытах, Кнарыдах, Паўлах, Сабяціне, а вось ужо восьмы год працую ў Нурцы. За гэты час я экстэрнам закончыла педагагічны ліцэй і завочна матэматычнае аддзяленне Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Цяпер збіраюся пачаць магістэрыюм.

— Што схіліла вас да матэматыкі?

— Ведаеце, яшчэ ў пачатковай школе я надта любіла матэматыку, а ў беларускім ліцэі гэтая схільнасць яшчэ больш паглыбілася. Вучыла мяне тады настаўніца матэматыкі Ірына Лукашэвіч. Падрыхтоўваючыся па гэтаму прадмету да заняткаў, для мяне заўсёды хапала праслуханага ўрока і запісу ў сшытку. І вось я звязала сваё жыццё з гэтым прадметам і не шкадую.

— Матэматыка ўсё ж не належыць да лёгкіх прадметаў. Як вы ўласнае зацікаўленне матэматыкай перадаеце сваім вучням?

— Перш за ўсё працую сістэматычна і настойліва над кожным раздзелам гэтага прадмета і прывіваю гэта сваім выхаванкам. Матэматыка патрабуе пільнай увагі і працавітасці. Найчасцей прымяняю праблемны метад навучання з працай у групах. Супольная праца прыносіць і мацнейшым і слабейшым вучням у роўнай ступені вялікую карысць. Але не абмяжоўваюся толькі ўрокамі. Вось для прыкладу, некалькі год таму быў у мяне слабы вучань па прозвішчу Базылюк, імя ўжо не памятаю. Аднойчы, едучы капаць бульбу ў ПГР-ы Вандалін, завяла я з ім размову пра матэматыку, прыгадала, як трэба працаваць над гэтым прадметам. Хлопец узяўся за работу і з бегам часу стаў вельмі добрым вучнем. Такіх прыкладаў ёсць у маёй шаснаццацігадовай настаўніцкай практыцы многа. Зрэшты, нашы выпускнікі заўсёды не маюць цяжкасцей з гэтым прадметам ні ў сярэдніх, ні ў вышэйшых школах.

— А што ў вас выклікае назва „Бельскі беларускі ліцэй"?

— Успаміны аб самых прыгожых гадах у маім жыцці, гадах працавітых і радасных. Не забываю я пра свой ліцэй. Ды не толькі я адна. У нашай школе працуюць аж тры выпускнікі гэтага ліцэя. Штогод мы кіруем найлепшых нашых выхаванкаў якраз у гэты наш ліцэй. Вось і сёлета пайшлі туды вучыцца Ірына Барташук, Вера Гапанюк, Людміла Хмур і іншыя — у суме шэсць нашых найлепшых выпускнікоў.

Размаўляў **Мікалай Гайдук**

### Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XIX

**Фальклорныя творы.** Другая серыя фальклорных твораў — гэта творы, якія і праблематыкай і стылістычнымі асаблівасцямі звязаны з народнай паэзіяй. Зрэшты, трэба падкрэсліць, што ў гэтую серыю ўваходзяць вершы з рознай тэматыкай. Факт гэты дазваляе падзяліць гэтую серыю на некалькі груп. У першую групу можам увясці тыя вершы, у якіх выступаюць драматычныя або трагічныя элементы: няшчаснае каханне, смерць. Да гэтай групы залічваем наступныя вершы: „Белым кветам адзета каліна", „У мясцечку Церасцечку не званы гудзяць", „Ой грымі, грымі, труба, уранку рана", „Ой, скацілася зорачка, скацілася", „Максім і Магдалена". Вершы гэтыя даволі разнародныя па сваёй тэматыцы і па выступаючых у іх героях. Аднак аб'ядноўвае іх матыў чалавечага страху, няўдачы, расчаравання, смерці. Частка названых вышэй твораў — гэта вершы, прысвечаныя няшчаснаму каханню. Да гэтых твораў трэба залічыць: „Хоць і зорачка — ды не вячэрняя", „Максім і Магдалена", „Ой, скацілася зорачка, скацілася", „Белым кветам адзета каліна", „У мясцечку Церасцечку — не званы гудзяць".

У першым вершы гэтага цыкла „Хоць зорачка — ды не вячэрняя" Багдановіч выкарыстоўвае тыповыя для народнай песні прыёмы параўнання дзяўчыны і зоркі. Верш гэты — па сутнасці эскіз, у якім многа недасказанага. Драматычны элемент у творы нязначны. Нічога не ведаем аб героях твора, вядома толькі, што дзяўчына „прападае праз каханка" — мабыць, прападае праз няўдачнае каханне.

Узмоцнены драматычны элемент выступае ў творы „Максім і Магдалена". Твор гэты мае спецыфічны фармальны характар. З'яўляецца ён па сутнасці народнай баладай. Балады такія спяваліся ў мінулым часта вандроўнымі лірнікамі, або скамарохамі-камедыянтамі. У баладах гэтых заўсёды мусілі выступаць праявы класавай няроўнасці, зайздрасці, гарачага кахання, здрады, смерці. Некаторыя з гэтых прынцыпаў прымяніў у сваім творы Багдановіч. У баладзе Багдановіча бачым каларытную, моцна зарысаваную фігуру Максіма, які п'е з дружынай у карчме і публічна заяўляе аб сваім каханні да дачкі ваяводы Магдалены. Карчмарка Сара даносіць аб гэтым ваяводзе. Ваявода прысылае слуг, якія хватаюць Максіма і казняць яго. Максім аднак перад смерцю паспявае выкрыць сваю драму, сваё каханне і да Магдалены, і да зямлі, і да дзетак. Усе яго слоўныя арацыі дасканала наблізаны да народных плачаў, да народных галашэнняў, з якімі, мабыць, Багдановіч быў дасканала азнаёмлены. Апошняя васьмірадковая страфа верша — гэта лямант самога паэта, які ўжальваецца над смерцю Максіма.

Падобны змест мае верш „У мясцечку Церасцечку не званы гудзяць". Гэта таксама па сутнасці народная балада. Аднак не мае яна такога разгорнутага сюжэта, як „Максім і Магдалена". З верша даведваемся аб забітым Янкустральцы: „Галава яго прабітая, усё крывёю залітае". Над Янкам шуміць толькі сасонка, і з яе шуму даведваемся, што прычынай смерці Янкі былі яго залёты да маладзіц. Верш гэты ад пачатку да канца ўтрыманы ў стылі народнай былі, народнага сказу аб драматычным здарэнні, звязаным з адносінамі паміж мужчынам і жанчынай.

Наступны верш гэтага цыкла пачынаецца ад слоў: „Белым кветам адзета каліна". У адрозненні ад двух папярэдніх вершаў галоўнай гераіняй гэтага твора з'яўляецца дзяўчына. У вершы выкарыстаны народны прыём упрошчанага дыялага і пастаяннага супастаўлення чалавека і дрэва, гэта значыць, дзяўчыны і каліны. Верш канчаецца страфой, якая інфармуе аб смерці гераіні. Дадумоўваемся, што прычынай смерці было няшчаснае каханне:

„А калі абляцела каліна, —
Атруцілася зеллем Марына,
І, як месяц далёкі, бледна,
У дамавіне ляжыць яна".

Верш „Ой скацілася зорачка, скацілася" — гэта амаль „жывое" народнае галашэнне. Багдановіч дасканала ведаў спецыфічны від беларускага фальклору — галашэнні. Відаць, цікавілі яго праявы парадаксальных элементаў у галашэннях. Нярэдка жонка, плачучы над памершым мужам або маці — над памершай дачкой, разам з вельмі істотнымі справамі закраналі малаважнае, а з пункту гледжання пастаронняга слухача — смешныя рэчы. Верш Багдановіча — гэта, мабыць, плач-галашэнне маці над памершай дачкой. Паслухайма:

„Ой скацілася зорачка, скацілася,
Ты ушла ад нас — і не прасцілася,
Не прасцілася, не развіталася,
І куды ушла — не сказалася.
Я ж цябе лячыла, даглядала,
На снег нагаворны клала,
Праз хамут прадзявала,
Ліпавым цветам паіла.
Чаму ж ты мне гэтак зрабіла?.."

Кожны, хто чуў сапраўднае народнае галашэнне, прызнае, што Багдановіч дасканала захаваў у сваім вершы яго аўтэнтызм.

Апошні верш данай групы „Ой грымі, грымі, труба, у ранку рана". Гэта тыповы, народны элегійны верш аб салдаце Яне, які знайшоў смерць у чужым краі. Верш характэрны сваім настроем. Смерць салдата трактуе ён як нешта натуральнае і непазбежнае. Згэтуль вынікае і зварот да жонкі, каб не плакала, бо

„Ён знайшоў другую жонку,
Чужую старонку, —
Ў чыстым полі з ёй пабраўся,
куляй заручаўся".

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ВІТАЕМ ПЕРШЫ З'ЕЗД ВЫПУСКНІКОЎ

## Выхаваўца ўсіх нас

Пачынаючы ад 1949 года, няспынна на адным і тым жа пасту — настаўнік фізікі ў Бельскім беларускім ліцэі. Адзін з найбольш справядлівых педагогаў — так сцвярджаюць у адзін голас усе, каго вучыў. Ставіў і ставіць заслужаныя пяцёркі і заслужаныя двойкі. Не кіраваўся ніколі эмоцыямі, схільнасцямі, звычкамі. Яго лекцыі — матэматычна сціслыя і паэтычна вясёлыя. Многія з нас — не фізікі і не матэматыкі, а назаўсёды будуць помніць вершаваную формулу закону Архімеда на ўкраінскай мове: „Каждэ тіло впэртэ в воду...“

У 1946 годзе Рыгор Анацік, родам з вёскі Аўгустова (5 км за Бельскам),



сялянскі сын, закончыў Бельскую беларускую гімназію. На здымку з першага ўласнага выпуску ў 1952 годзе выглядае, як і тады, пасля гімназіі, маладым хлопцам. І цяпер, пасля 20 ужо выпускаў — прыветлівы, прылюдны, з сімпатычнай усмешкай. Толькі валасы мясцамі пабялелі. „Гэта за заслугі“, — смяецца.

„Столькі год у адной школе, ніколі не падумалі Вы аб змене?“ — пытаю. „Падумаў, — адказвае — падумаў аднойчы, што някепска было б працаваць у школе ў сваёй вёсцы, блізка, зручна, не трэба кожны дзень ехаць веласіпедам, часам на матацыкле, круціць па 5 км туды і назад“.

Думка, на шчасце, не была сур'ёзная і гэты цэнены ўсюды настаўнік далей штодзень прыходзіць з сваёй вёскі ў ліцэй. Дырэктар гаворыць: вопытны, вельмі любімы моладдзю, спакойны, разважны, працавіты.

Шматгадовы намеснік дырэктара, а цяпер няштатны намеснік дырэктара. Вышэйшую адукацыю па фізіцы атрымаў у Гданьску.

З'яўляецца адзіным настаўнікам, які прыйшоў у ліцэй 1 верасня 1949 года. І верны астаўся школе і яе моладзі да І з'езду выпускнікоў. Нязменны і любімы выхаваўца ўсіх нас.

А фізіка? Нават тыя, хто ўсе гады пасля матуры не меў дачынення з фізікай, усё ж з гонарам і ўнутраным задавальненнем успамінаюць і Паскаля, і Ома, і Юнга, і Ньютана і іх геніяльны ўклад у нашу цывілізацыю.

Гаварылі неяк з братам пра тэорыю адноснасці Эйнштэйна. Дачка-ліцэістка адгукнулася: „Наш фізік казаў, што нават спецыялісты не надта разбіраюцца ў гэтай тэорыі“.

„Але наш фізік, — падумала я пра Анаціка (так іменна падумала — „наш“), добра разбіраецца“.

**Вера Леўчук**

## Слаўны духавы

Шмат год існаваў у ліцэі слаўны духавы аркестр. Удзельнік абсалютна ўсіх павятовых і гарадскіх урачыстасцей і дэманстрацый, а таксама многіх ваяводскіх. Іграў і ў іншых паветах. Экзамен у Беластоку здаваў на арганізацыйным з'ездзе БГКТ у 1956 годзе. Якія ўсхваляваныя былі нашы хлопцы!

Набліжэнне аркестра жыхары Бельска пазнавалі па гуках марша „Вараг“ у апрацоўцы праф. Баляслава Мяшальскага. Гэта ён (пакойны ўжо), сімпатычны бельскі прафесар музыкі з дырэктарам Яраславам Кастыцэвічам рука ў руку стварылі гэты аркестр у ліцэі.

Аб Мяшальскім адзін з былых музыкантаў гаворыць: „Ён, помню, хадзіў толькі, прыглядаўся і біў па пальцах, як хто няправільна трымаў інструмент“.

Была гэта праца. Па дзве гадзіны амаль кожны дзень пасля ўрокаў, а яшчэ ўдзел у розных урачыстасцях ці акадэміях. Дадому вярталіся ў 9—10 гадзін вечара, некаторым трэба было далёка ісці ў вёскі. Нават баяліся, бо каля могільнікаў праходзілі, а там, як гаварылі, і страшна. „Гэта часам добра было нават, — успамінае цяперашні юрыст, — не падрыхтуешся да ўрока і кажаш: таму, што ўчора ў аркестры доўга іграў“.

Часам здаралася, што настаўнік дараваў, а часам і ляцелі двойкі. Ды зноў цікавая рэч, што хлопцы, якія ігралі ў аркестры, былі наогул добрымі вучнямі, часта выдатнікамі, і ўсе скончылі школу, а большасць пайшла і далей вучыцца.

Сатысфакцыя вучняў, што ігралі ў аркестры, была вялікая. Былы ўдзельнік гаворыць: „Чуўся чалавек музыкантам, а яшчэ і тое важна, што вучняў-аркестрантаў і дырэктар любіў. І тое лічылася і падабалася, што ішоў чалавек на чале розных паходаў, або сядзеў на паказ на акадэміях“.

З інструментамі не расставаліся хлопцы і на канікулах. Усё вучыліся. Бралі дадому на вёскі. „Бывала, уся вёска сходзіцца ў хату, а хлопец іграе, аж хата трасецца“.

З Відава было многа здольных музыкантаў і многія ігралі ў аркестры: Пеця Сідарук, Вася Белаказовіч, Ваня Артымовіч.

„А помніш, як відаўцы не дапускалі іншых? Калі арэхаўцы пайшлі ў аркестр, дык відаўцы іх білі“, — успамінае арэхавец.

Была вялікая канкурэнцыя, шмат хлопцаў пхалася ў аркестр, а выбіралі найлепшых. Аркестр налічваў 35-40 асоб — адны хлопцы.

Найбольш вядомы быў Яраслаў Герба. Высокі хлопец, выдатны вучань (цяпер навуковы супрацоўнік Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку). Іграў на найбольшай трубе — басе. „А Пракапюк Коля доўга насіў бубен і ўсё вучыўся. Зноў добра біў на бубне Санька Пугацэвіч — цяпер у Беластоку, закончыў СГПіС“.



Гаворыць другі: „А помніш, як Сцёпка Шчурэўскі цудоўна свістаў польку. Я найперш не верыў, што гэта ён губамі“.

Калі выязджала моладзь капаць бульбу ў вёску, аркестр ехаў таксама. Сцёпа свістаў польку, аркестр прыграваў, а людзі, задаволеныя, частавалі іх бульбай і мёдам.

Цікавы перыяд у жыцці аркестра быў, калі вёў яго адзін з вучняў — Ванька Верамеюк. Сам іграў у аркестры яшчэ ад пачатковай школы. Калі быў кіраўніком, ішоў на чале аркестра і даваў патрэбныя знакі.

Аркестр жыў!

А цяпер на складзе ліцэя, як чуем, жывуць яшчэ тыя даўнія заслужаныя інструменты і гудуць яны нячутна аб мінулай сваёй славе.

*Запісана ад былых музыкантаў:* Івана Місеюка з *Відава, ліцэй закончыў у 1958 г., потым закончыў Варшаўскі універсітэт, магістр права, і* Юркі Федарука *з Арэхавіч, ліцэй закончыў у 1960 годзе, потым закончыў Варшаўскі універсітэт, магістр права. Абодва працуюць у Беластоку, абодва ёсць на нашым здымку.*

## АПОШНІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ

Паводле дадзеных за 1973/74 г., моладзь з вёскі складае 70 працэнтаў вучняў ліцэя. Гэтыя маладыя людзі прыйшлі наогул з бельскіх, — але таксама з гайнаўскіх і сямяціцкіх вёсак. 25 працэнтаў — гэта выпускнікі пачатковай беларускай школы № 3 у Бельску.

90 працэнтаў усіх вучняў ліцэя — беларусы (дадзеныя за 1972 г.).

*З Праграмы ўдасканальвання дыдактычна-выхаваўчай працы прынятай педагагічным саветам ліцэя 29-30.VIII. 1972.*

*

Удзел вясковай моладзі ў агульнаадукацыйных ліцэях у краіне складае толькі 14 працэнтаў, (параўнай з вышэйшым).

*З Матэрыялаў краёвай канферэнцыі дырэктараў агульнаадукацыйных ліцэяў з 11.VI.73, даклад др М. Ратая.*

Год 1973/74 даў 93 выпускнікоў. Гэта рэкордны лік у гісторыі школы. Будучыя гады прынясуць новыя рэкорды, бо ў школьным годзе 1974/75 ад 1 верасня навуку пачало ў чатырох першых класах 125 чалавек.

Ступень пераходу вучняў у наступны клас — 96,5 працэнта (дадзеныя за год 1973/74).

Сярэднегадавы адсеў (гэта значыць — колькі ў час школьнага года пакідае школу) — 0,9 працэнта.

У краіне адсеў гэты раўняўся 5,8 прац. (1972/73 г.), а ў Варшаве — 0,8 прац.

— Так што мы раўняемся да Варшавы, — трыумфальна падкрэслівае дырэктар ліцэя мгр Аляксей Карпюк.

(вл)



*Радасны першы дзень у новым будынку ліцэя на вуліцы Капэрніка 4.*

## ВЫПУСКІ

| Год | Лік выпускнікоў |
|---|---|
| 1946 | 80 — гімназія<br>12 — ліцэй |
| 1952 | 21 |
| 1953 | 38 |
| 1954 | 37 |
| 1955 | 35 |
| 1956 | 47 |
| 1957 | 39 |
| 1958 | 33 |
| 1959 | 28 |
| 1960 | 26 |
| 1961 | 40 |
| 1962 | 37 |
| 1963 | 58 |
| 1964 | 44 |
| 1965 | 48 |
| 1966 | 72 |
| 1967 | 74 |
| 1968 | 65 |
| 1969 | 68 |
| 1971 | 53 |
| 1972 | 56 |
| 1973 | 93 |

## Красоўскія



20 працэнтаў настаўнікаў Бельскага беларускага ліцэя — гэта яго былыя выпускнікі. Пасля розных вышэйшых школ вярнуліся яны працаваць сюды. Для некаторых з нас, сабраных сёння тут на з'ездзе, яны проста калегі, для іншых былі настаўнікамі. Сёння аднак падаем сабе рукі, як сябры, як выхадцы з адной сям'і.

Сярод настаўнікаў ліцэя заўсёды, а сёння сярод нас, сустрэнем адну цікавую сям'ю: К р а с о ў с к і я — (па старшынству працы ў школе) Мікалай — працуе ад 1956 г., Марыя — ад 1965 г., Зіна — ад 1967 г.

Мікалай і Зіна — брат з сястрой (на здымку), нарадзіліся і раслі ў вёсцы Кнаразы. Было іх толькі двое ў бацькоў. Мікалай — магістр матэматыкі, закончыў Вышэйшую педагагічную школу ў Аполі і ўжо столькі год няспынна выкладае ў ліцэі матэматыку.

„Вельмі здольны, — заўсёды паўтараў яго і наш былы дырэктар, пакойны Яраслаў Кастыцэвіч, — а галоўнае, бачыце, што вярнуўся ў сваю школу“.

Зіна — магістр беларускай філалогіі, закончыла Варшаўскі універсітэт, прыйшла працаваць у сваю школу, каб прадаўжаць вялікую і прыгожую традыцыю ў навучанні роднай мовы і літаратуры.

Марыя — жонка Мікалая, закончыла Гайнаўскі беларускі ліцэй, потым СН у Элку, а ў ліцэі вядзе фізкультуру. Цяпер студэнтка-завочніца Акадэміі фізічнага выхавання ў Варшаве. На здымку яе не бачым, хоць вельмі хацелася нам зрабіць поўны сямейны здымак Красоўскіх з Бельскага беларускага ліцэя. Марыя была якраз на занятках у АВФ.

(вл)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# БЕЛАРУСКАГА ліцэя ў БЕЛЬСКУ!



**У ліцэі заўсёды працвітала мастацкая самадзейнасць. Існаваў 100-асабовы хор і танцавальны гурток. На здымку: нейкі фрагмент нейкага танца (здымак архіўны). Злева — стаяць: Зіна Сідарук, цяпер выдатны інжынер, будаўнік Усходняй сцяны ў Варшаве, Раіса Шум — цяпер галоўны бухгалтар у Бельску, прыселі: Лідзія Базылюк — цяпер навуковы працаўнік Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і Валянціна Пяткевіч — вышэйшую адукацыю атрымала ў Гданьску, там жа і працуе. (Усе прозвішчы — дзявочыя).**

## Памяць жыве

У Бельску на Кляшчэлеўскай шашы знаходзяцца будынкі вялікай бальніцы з пяццю аддзяленнямі: унутраным, дзіцячым, заразным, хірургічным, радзільным. У кожным ляжаць хворыя. У кожным лекары і медсёстры праходзяць ціха ў сваіх белых халатах, глядзяць, слухаюць, памагаюць.

З нагоды I з'езду выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя і гімназіі пацікавіліся мы працуючымі ў гэтым шпіталі выпускнікамі гэтай школы. Сустрэлі нас сардэчна і аб многім расказалі лекар унутраных хвароб Анна Зенюк і старэйшая медсястра на аддзяленні Марыя Пракапюк. Анна Зенюк працуе тут 4 гады, а Марыя Пракапюк — 10. Ад іх мы даведаліся, што ў гэтай жа бальніцы працуюць іншыя выпускнікі беларускага ліцэя, лекары Андрэй Евец, Тацццяна Зелянкевіч, Яўгенія Пахвіцэвіч — ардынатар аддзялення заразных хвароб, Галіна Артысевіч — намеснік ардынатара на радзільным аддзяленні, лекар з I і II ступенню спецыялізацыі.

Медсёстраў усіх і пералічыць немагчыма. Іх у бальніцы каля 30. Паспелі запісаць толькі некаторыя прозвішчы: Вера Качэўская (Міранюк), Людміла Галёнка, Валянціна Нікалаюк, Галіна Сакоўская-Барадзёнак, Вера Баўла-Шаховіч, Зіна Федарук, акушэркі: Марыя Нікіцюк-Васілеўская, Раіса Гладкевіч, Марыя Гладкевіч.

Так склалася, што др Андрэй Евец рабіў складаную аперацыю, др Яўгенія Пахвіцэвіч (даўней Міранкевіч) выехала ў Венгрыю, Таня Зелянкевіч (Рыбак) таксама занята, а Галіна Артысевіч ляжыць хворая. Адведалі мы ўсё ж др Артысевіч на яе прыватнай кватэры і не шкадуем. Цудоўная, хвалюючая гадзіна! Др Галіна пакульгвала і неяк дзіўна сядзела на крэсле, ды нам найважнейшае было тое, што расказвала. Прынесла старыя здымкі, помніць сваіх сяброў і сябровак па прозвішчу, ведае, дзе вучыліся, што робяць, дзе жывуць, які лёс кожнага.



*Др Галіна Артысевіч.*

Закончыла IVa клас Бельскай беларускай гімназіі ў 1946 годзе, потым Медыцынскую акадэмію ў Любліне. „Ах, IVa — быў самы вясёлы клас“, — уздыхае. Так называўся? „Так Яраслаў Васільевіч назваў нас у 1945 яшчэ годзе“.

Два дні да яго смерці сядзела доктар ля ложка свайго дырэктара ў бельскай бальніцы. „Помніце, Яраслаў Васільевіч, IVa?“ — спытала. „Ах, дарагая, помню — самы вясёлы клас. І ніколі не забуду“.

„Яраслаў Васільевіч заўсёды вельмі цікавіўся жыццём моладзі. Бывала, — гаворыць др Галіна, — распытвае вучняў пра ўсе іхнія справы. Расказваюць яму. Слухае ўважліва і нарэшце: „Ну, хопіць аб гэтым, скажыце, што ў вас чуваць на любоўным фронце?“

20 год працуе ўжо др Артысевіч у Бельску, а не можа забыць тых дзён гімназісткі. Памяць цудоўная. Ці толькі памяць? „Нас так выхоўвалі, каб ведаць пра сваіх сяброў, каб помніць пра іх. Нешта такое было ў той школе, што асталося глыбока ў сэрцы“.

Як непарыўная традыцыя і сімвал, прагучэлі словы з паэмы Я. Купалы „Курган“. Др Галя, усхваляваная, з дасканалай дэкламатарскай тэхнікай успомніла:

> Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
> На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
> Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,
> Удзірванелы курган векавечны“.

І ўспомнілася мне тады, як шматгадовы незабыўны настаўнік беларускай мовы ў ліцэі Ілья Захаравіч Бернат укладаў у галаву свайму класу, які назваў „джунгляй“ (адны хлопцы — вельмі здольныя, але і вельмі неспакойныя): „Не навучыцеся „Кургана“ — двойку дам“.

Хлопцы навучыліся і неяк на вялікім перапынку магутнымі галасамі заспявалі „Курган“ на мелодыю ні то „Стеньки Разина“ ні то „Варяга“. Ілья Захаравіч насупіў бровы, круціў галавой, вочы весела смяяліся і, задаволены, паўтараў; „Ой, джунгля, джунгля“.

З гэтай „джунглі“ выйшла шмат выдатных людзей, як для прыкладу, Яўген Главацкі, Пётр Верамеюк, Пётр Панасюк, Аляксандр Міранюк, Вячэслаў Асіпюк, Сцяпан Адынец, Мікалай Юзэфчук і іншыя.

**Міхась Хмялеўскі**
**Вера Леўчук**

## У асабістым архіве Яраслава Кастыцэвіча

Пакуль не ўбачыла, не думала, што такі багаты ён, гэты архіў. Тысячы дакументаў, розных па форме, велічыні, характару, гатунку і зместу. Ад малых да вялікіх. Пісаных сотнямі рук і пісаных уласнаручна дырэктарам. Лісты, поўныя эмоцыі, і толькі спіскі вучняў і выпускнікоў. Вясёлыя, смешныя і сумныя. Накінутыя нататкі і планы.



*Здымак з подпісам „На памяць дарагому настаўніку і выхаваўцу Яраславу Васільевічу ад Соні (Коршак) і Зоі (Асіпюк). Харкаў 22.XII.1953 г.“*

Найбольш паштовых картачак і лістаў ад людзей, якія некалі былі яго вучнямі. І ў якіх яны здалёк пішуць, што помняць, яшчэ раз дзякуюць, жадаюць добрага здароўя і шмат шчаслівых год жыцця. Пішуць пра сваю работу, свае дасягненні, а таксама пра свае няўдачы. Ёсць паштоўкі на Дзень настаўніка і на розныя святы. Лісты зусім прыватныя, ад сэрца, на добры ўспамін. Тысячы каляровых паштовак, пісаных па-беларуску, па-польску і па-руску.

Вось каляровая паштоўка, напісаная ў Балгарыі з паведамленнем, што добра адпачывае. Вось аздобная святочная тэлеграма з цёплымі словамі з Варшавы, вось ліст з войска, што хлапец трымаецца бадзёра, так „Як Вы вучылі“, вось паштоўка ад вучонага з Вроцлава і ад інжынера з Варшавы, ад студэнткі з санаторыя, што ўжо паздаравела, і ад дзяўчыны з Аўстраліі. Вось вялікі і вельмі моцны верш, прысвечаны „дарагому настаўніку“. Колькі ў ім самых добрых, самых светлых пачуццяў!

Вось у архіўным альбоме фотаздымак, дзве прытуленыя студэнткі з Харкава, а тут зноў хлопцы ў лодцы на рэчцы, (відаць, у час канікул). А подпісы ўсюды: „Шматпаважанаму і дарагому дырэктару і настаўніку на доўгую памяць...“

Некаторыя рэчы з архіва прадстаўляем на з'ездаўскай выстаўцы ў холе Бельскага беларускага ліцэя. Рэдакцыя складае падзяку дачцы дыр. Кастыцэвіча — Святлане Сычэўскай, што адкрыла архіў прадстаўніку рэдакцыі. (вл)



*Бельскі беларускі ліцэй. Здымак з подпісам Н. Несцяровіч, падараны „з сардэчнай падзякай за працу“ дырэктару Кастыцэвічу ў 1965 годзе.*



*Фрагмент матуральнага экзамена. Другі на здымку — Юрка Каліна, цяпер начальнік Бельскай гміны, здае матуральны экзамен.*



*Памятны здымак выпуску 1952 года. Быў гэта першы выпуск аднаўленага ліцэя з 1949 года.*

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

